ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

# Голас Радзімы

№ 7 (2201) 14 лютага 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.

***Народнаму пісьменніку БССР Івану МЕЛЕЖУ 7—га лютага споўнілася б 70 гадоў***



# ЛЕТАПІСЕЦ НЕПРЫДУМАНАЙ ПРАЎДЫ

Іван Мележ — народны пісьменнік Беларусі. Але народны ён не толькі па званню, нададзенаму яму ўрадам, а па духу. Самабытна-беларуская ў яго мова, вобразы, сам лад думак. З думкаю пра свой народ пражыў ён няпоўныя 56 гадоў і пісаў «Палескую хроніку» — лепшае, што зроблена ім у літаратуры. ,

Нарадзіўся Іван Паўлавіч Мележ 8 лютага 1921 года на Палессі. Сёлета яму споўнілася б 70 гадоў. Водгалас рэвалюцыйных падзей дакаціўся і да саламяных стрэх невялікай вёскі Глінішчы, што на Мазыршчыне. Вось адзін з першых успамінаў пісьменніка: у хаце Мележаў стаялі нейкі час вайскоўцы. Адзін з іх, узяўшы малога Іванку на рукі, сказаў (маці запомніла): «Гэтыя — шчаслівыя будуць. Угадалі — пасля вайны нарадзіцца. Пажывуць у смак, па-чалавечы». Дарэчы, гэта сцэна ёсць у рамане «Людзі на балоце» — першай частцы «хронікі». Але ўжо напоўненая асаблівым сэнсам, які надаў ёй няпросты час, калі давялося жыць і тварыць Мележу.

Пакаленне беларускіх хлопцаў і дзяўчат, народжанае ў савецкі час, вельмі спадзявалася, што яно будзе жыць «па-чалавечы». Яму перадавалася вера бацькоў, простых сялян-аратых, сейбітаў, працаўнікоў, што бальшавіцкія лозунгі: «Уся ўлада Саветам!»,

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**НА ЗДЫМКАХ: Іван МЕЛЕЖ у Саюзе пісьменнікаў. 1967 г.; з бацькам Паўлам Фёдаравічам. 1968 год.**



**«Цяжкая экалагічная сітуацыя ў шэрагу прамысловых гарадоў Беларусі (Наваполацк, Салігорск, Магілёў, Гомель, Светлагорск, Гродна і інш.) звязана з тым, што прадпрыемствы ў працэсе сваёй вытворча-гаспадарчай дзейнасці клапоцяцца толькі пра свае ведамасныя інтарэсы. Гэтаму садзейнічае і тая акалічнасць, што СССР да сённяшняга дня застаецца адзінай краінай у свеце, дзе прыродныя рэсурсы расходуюцца бясплатна...»**

**(Аб праблемах экалогіі ў Беларусі піша Валерый ЯРМОЛЕНКА ў артыкуле «ТРАЯНСКІ КОНЬ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ»).**

**Стар. 3.**

Іван САВЕРЧАНКА

## КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА

**Як мы [illegible]аведамлялі [illegible]апярэдне, з сённяшняга нумара «Голас Радзімы» пачынае публікаваць гістарычнае э[illegible] Івана САВЕРЧАНКІ «КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА». (Чытайце заўсёды на стар. 5).**



**«...А спрачацца ёсць аб чым. Хаця, здавалася б, за мінулыя паўстагоддзя з пачатку другой сусветнай вайны тагачасныя падзеі, што адбываліся ў Беларусі, ужо добра вывучаны. Тым не менш даводзіцца канстатаваць, што тэма вайны яшчэ не ахоплена ва ўсёй яе глыбіні і складанасці. Раней мы бачылі пераважна гераіку барацьбы з фашызмам. Аднак жа ёсць і другі бок ваеннай рэчаіснасці — цяжкія мукі і гібель мільёнаў людзей, не толькі перамогі, але і паражэнні, няўдачы, побач з узлётам чалавечага духу—нізасць і подласць (на сваім жа баку барыкад)».**

**(Новы погляд на гісторыю партызанскага руху выказвае вучоны Уладзімір КУЗЬМЕНКА ў інтэрв'ю «АПАЭТЫЗАВАЦЬ? НЕ, ДАСЛЕДАВАЦЬ!»).**

**Стар. 4.**

**«Страсці вакол Забэйды-Суміцкага падаграваюцца штучна, выпады супраць яго часцей за ўсё робяцца па заезджанай схеме: быў у акупацыі, значыць здраднік. Вялікі спявак ніколі і нікому, акрамя Радзімы і мастацтва, не служыў. Ён не здраджваў зямлі бацькоў, ніхто з-за яго не пацярпеў, ён не прынёс ніякай шкоды свайму народу».**

**(Роздум журналіста Дзіяны ЧАРКАСАВАЙ «ВЯРТАННЕ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА» пасля прагляду фільма аб вялікім спеваку).**

**Стар.6.**

ПЕРАД РЭФЕРЭНДУМАМ

# ВЫСТУПЛЕННЕ М. ГАРБАЧОВА

17 сакавіка ў СССР праводзіцца рэферэндум па пытанню аб будучыні нашага Саюза. Савецкія людзі павінны даць адказ на адно пытанне: «Ці лічыце вы неабходным захаванне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як абноўленай федэрацыі роўных суверэнных рэспублік, у якой будуць у поўнай меры гарантаваны правы і свабоды чалавека любой нацыянальнасці?» У сувязі з гэтым 7 лютага па тэлебачанню выступіў Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў. Ён, у прыватнасці, сказаў: «Ідучы на рэферэндум, абдумваючы сваю пазіцыю, кожны з нас павінен разумець, што па сутнасці размова ідзе аб лёсе нашай дзяржавы і кожнага народа, аб нашым агульным лёсе. За апошнія месяцы на гэты конт сказана ўжо многае. Абнародаваны дакументы палітычных рухаў і партый. Асоба я хачу вылучыць дэкларацыі аб суверэнітэце, прынятыя вышэйшымі заканадаўчымі органамі рэспублік.

Хаця дыскусіі па гэтаму пытанню працягваюцца, ужо цяпер з усёй пэўнасцю можна сказаць: савецкія людзі — за захаванне Саюза як агульнага здабытку ўсіх нашых народаў, іх надзейнай апоры. Гэтак жа рашуча яны выступаюць за яго абнаўленне, з тым каб усе народы, якія жывуць у ім, маглі свабодна развівацца, адчувалі сябе гаспадарамі ўласнага лёсу.

Агульнае ўяўленне аб тым, якім павінна быць абноўленая саюзная дзяржава, дае праект новага Саюзнага дагавора. Ён апублікаваны ў друку. Што галоўнае ў канцэпцыі абнаўлення Саюза? Гэта перш за ўсё суверэнітэт рэспублік — суб'ектаў федэрацыі, які забяспечвае права кожнага народа на самавызначэнне і самакіраванне. Гэта — сумесны ўдзел рэспублік у рэалізацыі саюзных паўнамоцтваў, гэта значыць усяго таго, што яны даручаюць цэнтральным органам улады і кіравання. Суверэнным рэспублікам патрэбна жыццяздольная федэрацыя, якая сапраўды магла б адстойваць агульныя інтарэсы.

Гісторыя распарадзілася так, сказаў Прэзідэнт СССР, што вакол Расіі аб'ядналася мноства вялікіх і малалікіх народаў, якія рассяліліся на прасторах Сібіры, пласкагор'ях і стэпах Далёкага Усходу, Сярэдняй Азіі, у далінах Каўказа і Паміра, на берагах Балтыкі, Каспія і Чорнага мора. За некалькі стагоддзяў сфарміравалася вялікая еўразійская дзяржава з самай вялікай у свеце тэрыторыяй і шматлікім разнамоўным насельніцтвам.

У многім гэта стала вынікам складаных працэсаў, якія працякалі стагоддзямі і былі звязаны з асваеннем новых прастораў і дэмаграфічнымі рухамі. Частка тэрыторый была набыта шляхам заваявальных паходаў, як гэта адбывалася паўсюдна, на ўсіх кантынентах. Многія народы далучыліся да Расіі добраахвотна, у пошуках аховы ад агрэсараў ці пад уплывам імкнення выйсці на вялікі рынак, далучыцца да аднаго з сусветных цэнтраў навукі і культуры

Гэтаму ў многім садзейнічалі адкрытасць рускага народа, яго гатоўнасць супрацоўнічаць на аднолькавых правах з людзьмі розных нацыянальнасцей, добразычліва ўспрымаць іх традыцыі і дзяліцца сваімі.

Цяпер ідзе многа дыскусій аб тым, што даў саюз народаў, які склаўся пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але часта ў палеміцы, крытыкуючы тое, што сапраўды заслугоўвае крытыкі і асуджэння, указваючы на рэальныя праблемы, якія накапіліся за гэтыя гады, дапускаюць і агульнае адмаўленне пазітыўных змяненняў, што адбыліся ў лёсе нашых народаў. А зроблена ж вялікая справа! Дзесяткі народаў, якія не маглі ці ў сілу розных прычын страцілі дзяржаўнасць, атрымалі магчымасць яе стварыць. Усе рэспублікі маюць цяпер індывідуальны, навукова-тэхнічны, кадравы патэнцыял, назапасілі багаты вопыт арганізацыі свайго жыцця. Саюз даў магчымасць адбіць фашысцкую пагрозу незалежнасці ўсіх народаў, выкарыстаць выгады ўзаемадапамогі і супрацоўніцтва ў рамках вялікай эканамічнай прасторы.

Па сваёй палітычнай вазе і крэдыту давер'я Савецкі Саюз выступае сёння на міжнароднай арэне як магутная дзяржава, якую не без падстаў называюць супердзяржавай. Яе палітыка аказвае ўплыў на ўсе працэсы, што адбываюцца ў свеце. Вялікія намаганні спатрэбіліся, каб набыць такі ўплыў. А растранжырыць яго, пусціць па ветры можна вельмі хутка. Дадам: за выключэннем заўзятых рэакцыянераў і мілітарыстаў, ніхто ў свеце не хоча аслаблення ролі Савецкага Саюза ў міжнародных справах».

*«Я хацеў бы сёння пагаварыць аб вельмі важнай і ў той жа час вельмі далікатнай для нашага горада праблеме. Гутарка пойдзе аб асобах так званай каўказскай нацыянальнасці, якія ўсё больш напаляюць крыміногенную абстаноўку. Ні ў якім выпадку не хачу, каб нехта падумаў аб маёй непрыязнасці ўвогуле да жыхароў поўдня, сярод якіх у мяне нямала сяброў, ці таго больш — абвінавацій у распальванні нацыяналізму. Таму хацеў бы адразу паставіць кропку над «і». Я гавару аб злачыннасці, а яе ў нашым горадзе ў апошні час вельмі моцна абвастраюць каўказцы. Многія з прыбыўшых жыхароў Закаўказзя фіктыўна ўладкоўваюцца на работу ў кааператывы, спрабуюць, нягледзячы на ўзнікшыя цяжкасці з жыллём, прапісацца ў асоб, якія маюць намер выехаць на пастаяннае месцажыхарства за межы рэспублікі і Саюза. Такія плацдармы ім патрэбны для сваіх подпольных ценявых спраў. Як правіла, мэтай іх прыезду становяцца спекуляцыйныя здзелкі, перапродаж плодаагароднінай і кветкавай прадукцыі, махлярства пры набыцці ў грамадзян дарагіх прадметаў павышанага попыту, скупка вострадэфіцытных бытавых рэчаў, збор і набыццё наркатычных рэчываў і сыравіны. Пакуль мы тут думаем, як вырашаць эканамічныя і экалагічныя праблемы, каўказцы ўжо падзялілі наш горад на сферы ўплыву. Нярэдка з гэтай прычыны ўзнікаюць перастрэлкі. Адна з іх нядаўна адбылася на перакрыжаванні вуліц Кірава і Навапалескай днём. У выніку пацярпелі два чалавекі, адзін з іх — выпадковы прахожы. Так што жыць становіцца небяспечна. Падобныя сутычкі з прымяненнем агнястрэльнай і халоднай зброі не адзінкавыя. Мы не можам прагназіраваць, што заўтра зробяць гэтыя малойчыкі, якія ўдзень гандлююць кветкамі і фруктамі, а ўвечары наладжваюць дэбошы ў рэстаранах, забіваюць і грабяць людзей».*

*(Ю. ЗАХАРЭНКА, намеснік начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкома).*

САЦЫЯЛЬНАЯ АБАРОНА

## ПРАТЭСТ ПРАФСАЮЗАЎ

**Прэзідыум Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі выступіў з Заявай, у якой выказаў рашучы пратэст супраць такіх дзеянняў гаспадарчых і дзяржаўных органаў, якія вядуць да зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Адбываецца скрытае і яўнае павышэнне розічных цэн, гаворыцца ў Заяве. Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 1 чэрвеня 1990 года «Аб адносінах да распрацаванай урадам СССР канцэпцыі пераходу да рэгулюемай рынкавай эканомікі» ў частцы недапушчэння павышэння розічных цэн без гарантый сацыяльнай абароны насельніцтва не выконваецца. З ведама ўрада без кампенсацыі страт насельніцтву значна падаражалі вырабы прадпрыемстваў грамадскага харчавання, плодагароднінная прадукцыя, бытавыя паслугі, будаўнічыя матэрыялы, многія прамысловыя тавары першай неабходнасці. У выніку працягвае падаць жыццёвы ўзровень людзей, дэстабілізавацца сацыяльна-эканамічнае становішча ў рэспубліцы.**

**Прэзідыум Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі звярнуўся да Вярхоўнага Савета БССР і ўрада рэспублікі з патрабаваннямі, неадкладна ўстанавіць мінімальны спажывецкі бюджэт і гарантаваны мінімум заработнай платы. Прафсаюзы рэспублікі пацвярджаюць сваё патрабаванне аб тым, што яго памер павінен быць не меншы за 125 рублёў у месяц, а не 114, як прапаноўвае ўрад.**

**Прафсаюзы патрабуюць таксама прадугледзець кампенсацыю росту цэн на прамысловыя тавары для асоб старэйшага ўзросту і дзяцей, на прадукты дзіцячага харчавання, медыкаменты для ўсіх груп насельніцтва.**

**Грубыя памылкі ў палітыцы аптовых і розічных цэн паставілі цэлы шэраг прадпрыемстваў, якія непасрэдна абслугоўваюць спажывецкі рынак, у стан банкруцтва, а іх працоўныя калектывы засталіся без сродкаў на заработную плату, сцвярджаецца ў Заяве. Вярхоўны Савет БССР павінен паскорыць прыняцце мер па выхаду з узнікшага становішча.**

МІЖНАРОДНАЯ ВЫСТАЎКА



**Камп'ютэры, тэлевізары, калькулятары, музычныя цэнтры і многае іншае выпускае аўстрыйская нацыянальная фірма «Лагастар». Яе прадукцыю можна сустрэць на рынках многіх краін свету. Нядаўна «Лагастар» арганізавала выстаўку сваіх вырабаў у Мінску. Прадстаўнік фірмы Аляксандр Пекаў пракаменціраваў гэты факт прыкладна так: на Захадзе ў дзелавых колах Беларусь лічаць раёнам эканамічнай стабільнасці. А значыць з рэспублікай можна мець справу.**

**Такім чынам, не за гарамі той час, калі вырабы замежнай фірмы, што дэманстраваліся на выстаўцы ў Мінску, з'явяцца і на спажывецкім рынку Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Тут праходзіла выстаўка аўстрыйскай фірмы.**

РЭЛІГІЯ І МЫ

## ПРАВАСЛАЎНАЯ ШКОЛА Ў ЖЫРОВІЧАХ

**У Жыровічах пры Мінскай духоўнай семінарыі адкрыта нядзельная школа. Са святога благаславення мітрапаліта Філарэта яе адкрыў рэктар семінарыі архімандрыт Канстанцін.**

**Заняткі будуць весціся па ўзроставых групах — у школу ідуць, як кажуць, і стары, і малы.**

**Трэба зазначыць, што гэта другая праваслаўная школа ў Слонімскім раёне. Першая працуе ў самім Слоніме.**

ПЕРАСОЎНАЯ ЛАБАРАТОРЫЯ




**Сучасныя метады вымярэнняў іанізуючага выпраменьвання і апаратуру для іх распрацоўваюць маладыя вучоныя аддзела тэхнічных праблем радыеэкалогіі, створанага пры інстытуце механікі металапалімерных сістэм АН БССР у Гомелі. Ужо дзейнічае перасоўная лабараторыя для вымярэння шчыльнасці забруджання тэрыторыі радыенуклідамі. У ёй ё традыцыйнага адбору ўзораў глебы па даных экспрэс-аналізу апаратыўна рыхтуюцца падрабязныя карты любога маштабу. Яны выкарыстоўваюцца для ацэнкі ступені забруджання мясцовасці і прыняцця рашэнняў аб магчымасці вядзення сельскагаспадарчых работ, а таксама для інфармацыі насельніцтва.**

**НА ЗДЫМКАХ: «гаспадар» перасоўнай лабараторыі інжынер Пётр КАРАТКЕВІЧ; падрыхтоўкай карты забруджання радыенуклідамі даследуемай тэрыторыі заняты навуковыя супрацоўнікі Таццяна БАБРОВА і Канстанцін БУЗДАЛКІН.**



ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ На 1 студзеня 1991 года ў Беларусі дзяржаўныя акты на валоданне зямлёй атрымалі менш за 100 сялян. Згодна з Зямельным кодэксам БССР, зямля фермерскім гаспадарам перадаецца ва ўладанне пажыццёва з правам на спадчыну.

◆ Вялікая Айчынная вайна, пасля заканчэння якой прайшло ўжо больш за 45 гадоў, дагэтуль напамінае аб сабе. Толькі летась на тэрыторыі Беларусі спецыяльнымі інжынерна-сапёрнымі падраздзяленнямі было знойдзена і абясшкоджана 85 авіяцыйных бомб, 3 350 артылерыйскіх снарадаў, 1 293 мінамётных мін, 1 801 граната — усяго больш 22 тысяч узрыванебяспечных прадметаў.

◆ З 1 лютага 1991 года спыніла сваё існаванне «Сельская газета», якая нядаўна адзначыла сваё 70-годдзе. Цяпер замест яе выходзіць «Белорусская нива». У адрозненне ад іншых новых выданняў, якія маюць беларускую назву і друкуюць дзеля адчэпнага 2—3 заметкі на беларускай мове, «Белорусская нива» цалкам засеяна рускім зернем. Нягледзячы на Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы на тэрыторыі суверэннай Беларусі.

◆ Полацкая рада БНФ арганізавала пікет у цэнтры горада ў знак пратэсту супраць дзеянняў армейскіх падраздзяленняў у Літве і Латвіі. Сямёра пікетчыкаў пратрымаліся толькі адну гадзіну. З воклічамі: «Няма на вас Сталіна!» іх разагналі палачане, у асноўным старэйшага веку.

◆ Гарадскі Савет народных дэпутатаў Гомеля збіраецца рэканструяваць аэрапорт з дапамогай спецыялістаў з Клермон-Ферана — горада-пабраціма ў Францыі. Мясцовыя ўлады хочуць давесці правінцыяльны аэрапорт да міжнародных стандартаў. Хутка чакаецца прыезд французаў для заключэння здзелкі.

## ЭКАЛОГІЯ і ЭКАНОМІКА

# ТРАЯНСКІ КОНЬ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

З УСІХ фактараў доўгачасовага развіцця грамадскай вытворчасці рашаючымі з'яўляюцца прыродныя: нельга забяспечыць пастаянны і эфектыўны рост народнага дабрабыту, калі падарвана прадукцыйнасць прыродных рэсурсаў, нельга таксама паспяхова вырашаць сацыяльныя задачы, калі асяроддзе пражывання чалавека дэградзіравана.

Цяжкая экалагічная сітуацыя ў шэрагу прамысловых гарадоў Беларусі (Наваполацк, Салігорск, Магілёў, Гомель, Светлагорск, Гродна і інш.) звязана з тым, што прадпрыемствы ў працэсе сваёй вытворча-гаспадарчай дзейнасці клапоцяцца толькі пра свае ведамасныя інтарэсы. Гэтаму садзейнічае і тая акалічнасць, што СССР да сённяшняга дня застаецца адзінай краінай у свеце, дзе прыродныя рэсурсы **расходуюцца бясплатна;** бясплатныя для прадпрыемстваў і размяшчэнне на зямельных угоддзях шкодных прамысловых адходаў, пылагазавыкіды ў атмасферу і скіды забруджваючых рэчываў, якія ў многа разоў перавышаюць крайне дапушчальныя канцэнтрацыі ў вадаёмы. Марнатраўнае, часта варварскае прыродакарыстанне ў Савецкім Саюзе — гэта вынік адміністрацыйна-каманднай сістэмы экстэнсіўнага гаспадарання па прынцыпу «план любой цаной». Усе яе недахопы асабліва выявіліся ў апошнія гады як непазбежны водгук стагнацыі нашай эканомікі, экамікі нязздейсненага сацыялізму.

Кардынальнае вырашэнне праблемы аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў заключаецца ў комплексным выкарыстанні сыравіны, мадэрнізацыі і тэхнічнага пераўзбраення прадпрыемстваў на падставе рэсурсазберагаючых тэхналогій. Урад нашай рэспублікі сцвярджае, што вырашэнне гэтай праблемы паступова ажыццяўляецца. Аднак у жыцці ўсё выглядае не так аптымістычна. У сувязі з ростам аб'ёмаў прамысловай вытворчасці агульная колькасць вытворчых адходаў, што не выкарыстоўваюцца, няўхільна расце — 35 мільёнаў тон у 1990 годзе супраць 30 мільёнаў тон у 1985-м. Таму аб паляпшэнні экалагічнага стану пакуль гаварыць рана.

Абвастраецца і праблема аховы водных рэсурсаў Беларусі. Штогадовы скід сцёкавых вод набліжаецца да 2 мільярдаў кубаметраў, 5 працэнтаў якіх — гэта забруджаныя прамысловыя сцёкі. Скід адмоўна ўплывае на стан вадаёмаў, таму што патрабуе шматразовага разбаўлення свежай рачной вадой для дасягнення гранічна дапушчальных канцэнтрацый забруджваючых рэчываў, асабліва нітратных і нітрытных злучэнняў, цяжкіх металаў, нафтапрадуктаў, фенолаў, якія цяжка ўлоўліваюцца ачышчальнымі збудаваннямі. Найбольш напружаная сітуацыя складваецца ў раёне Полацка-Наваполацка, дзе ў агульнае забруджванне Заходняй Дзвіны істотны «ўклад» уносяць аб'яднанні «Палімір», «Нафтааргсінтэз» і «Шкловалакно», цыяніды і нафтапрадукты, што скідваюцца, намнога перавышаюць крайне дапушчальныя нормы. У Салігорскім горнапрамысловым раёне накапліваецца вялікая колькасць расолаў з мінералізацыяй да 300 грамаў на літр. Забруджванне імі паверхневых і грунтавых вод становіцца небяспечным.

Выкіды шкодных рэчываў у атмасферу па рэспубліцы ў цэлым складаюць 1,3 мільёна тон штогод, палова з іх прыпадае на аўтатранспарт. Спецыфічныя выкіды звязаны ў асноўным з хімічнымі вытворчасцямі — гэта серавуглярод і серавадарод, метанол, параксілол і этыленгліколь, сінільная кіслата, вінілхларыд, злучэнні фтору і бору, саляная і серная кіслоты, фенол, стырол, фармальдэгід і многія іншыя. Больш за 40 працэнтаў агульнага аб'ёму пылагазавыкідаў адносіцца да I і II класаў небяспекі.

Траянскі конь цывілізацыі сёння, на рубяжы XX і XXI стагоддзяў, ля бездані «Экалагічная катастрофа». Экалагічныя праблемы не прызнаюць межаў, асабліва ў атмасферным паветры — газападобныя выкіды прамысловых прадпрыемстваў пераносяцца на многія дзесяткі і нават сотні кіламетраў. Гэта характэрна для ўсіх індустрыяльна развітых краін. У нашай жа — усе рэгіёны, хаця і ў рознай ступені, аказаліся заложнікамі бескантрольна цэнтралізаванай затратна-беззваротнай эканомікі, характэрнай для ўсяго безгаспадарчага Саюза.

У савецкай прэсе часта ўпамінаюцца як экалагічна небяспечныя расійскія гарады Чарапавец і Кемерава, украінскія Севераданецк і Днепрадзяржынск, казахскія Джамбул і Чымкент, узбекскі Чырчык, туркменскі Чарджоу і... беларускія Магілёў і Салігорск. Сацыяльна-экалагічны ўрон, што наносіцца народнай гаспадарцы краіны, у грашовым выражэнні вылічваецца многімі і многімі мільярдамі рублёў. Дыягназ: тэрытарыяльная арганізацыя грамадства не адпавядае ўзроўню прадукцыйных сіл, а вытворчыя адносіны — хранічна хворыя. Настолькі хворыя, што патрабуецца тэрміновае хірургічнае ўмяшанне.

Менавіта таму з 1 студзеня 1991 года ў Савецкім Саюзе ўводзіцца плата за выкарыстанне прыродных рэсурсаў, а таксама плацяжы за забруджванне навакольнага асяроддзя.

Прынцыпова важна, што плацяжы ўстанаўліваюцца і за дапушчальныя, і за звышдапушчальныя выкіды і скіды забруджваючых рэчываў у атмасферу і водныя крыніцы. Акрамя таго, плаціць давядзецца і за размяшчэнне на зямельных угоддзях цвёрдых адходаў, якія не скарыстоўваюцца.

Асноўнай крыніцай плацяжоў будзе даход прадпрыемстваў. Плацяжы варта разглядаць, у першую чаргу, у якасці механізма фарміравання экалагічных фондаў прадпрыемстваў — фондаў аховы прыроды. На іх аснове будуць фарміравацца мясцовыя і рэспубліканскі фонды аховы прыроды, назначэнне якіх — цэнтралізацыя рэсурсаў для правядзення прыродаахоўных работ па прыярытэтных напрамках з мэтай павышэння эфектыўнасці капіталаўкладанняў у ахову навакольнага асяроддзя, паскарэння тэрмінаў асваення гэтых затрат, павышэння аператыўнасці кіраўніцкіх рашэнняў у рамках рэгіянальнага гасразліку і самафінансавання.

Дзеля справядлівасці нельга не адзначыць, што плацяжы за забруджванне навакольнага асяроддзя як нейкая сістэма штрафаў ужо цяпер крытыкуецца — плацяжы асацыіруюцца з платай за «дазвол на забруджванне» ці магчымай прычынай «дэфармацыі рынку». Абедзве гэтыя характарыстыкі патэнцыяльна справядлівыя. Аднак абгрунтавана ўстаноўленыя штрафныя санкцыі ці эканамічныя стымулы, што таксама прадугледжваецца за добрую прыродаахоўную работу, могуць аказацца эфектыўным сродкам аздараўлення біясферы, асабліва ў экалагічна напружаным раёне.

Плата за прыродныя рэсурсы ўстанаўліваецца для прадпрыемстваў за выкарыстанне зямельных, водных, лясных і рэкрэацыйных рэсурсаў, нетраў, расліннага і жывёльнага свету, а таксама за забруджанне атмасфернага паветра вытворчым аўтатранспартам. У новых умовах гаспадарання гасразліковае прадпрыемства будзе абавязана рэалізаваць прыродныя рэсурсы, якія прадастаўляюцца ў яго распараджэнне, на ўзроўні не ніжэйшым за народнагаспадарчыя нормы рэнтабельнасці, што дасць магчымасць не толькі ўносіць неабходную плату ў бюджэт, але і ўтварыць для сябе гасразліковыя фонды матэрыяльнага стымулявання. Плата за прыродныя рэсурсы па адпаведных нарматывах будзе ўстанаўлівацца Саветам Міністраў рэспублікі; выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў такога права не дадзена.

Некалькі слоў аб рэспубліканскім фондзе аховы прыроды. Ён прызначаны для фінансавання работ па аднаўленню парушаных прыродных аб'ектаў (малых рэк, Нарачы і Браслаўскіх азёраў і г.д.), па ўзнаўленню гідралагічнага рэжыму беларускага Палесся, парушанага шырокамаштабнай «меліярацыяй», узнаўлення жывёльнага і расліннага свету, стварэння запаведнікаў, нацыянальных паркаў і заказнікаў (у бліжэйшы час будзе створацца запаведнік «Налібоцкая пушча»), экалагічных экспертыз народнагаспадарчых праектаў, экалагічнай адукацыі і прапаганды экалагічных ведаў, фінансавання навукова-даследчых работ па стварэнню прырода- і рэсурсазберагаючых тэхналогій, набыцця абсталявання для будаўніцтва ў буйных гарадах заводаў па ўтылізацыі і перапрацоўцы бытавых адходаў і г.д.

Не выключана, што мясцовыя Саветы ў шэрагу выпадкаў будуць перашкаджаць размяшчэнню ці расшырэнню на сваёй тэрыторыі прадпрыемстваў са значным уздзеяннем на навакольнае асяроддзе, нават калі гэта эфектыўна з народнагаспадарчых пазіцый. Шляхі вырашэння праблемы — змяненне сістэмы эканамічнага стымулявання, уключаючы падаткаабкладанне, увядзенне льгот для перадавых прадпрыемстваў, выпуск акцый і пазык, плата дрэнна працуючых прадпрыемстваў у мясцовыя бюджэты. Можа быць выкарыстана таксама і дагаворная форма ўстанаўлення плацяжоў у рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты за негатыўнае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе ў межах агавораных нарматываў. Эфектыўнымі могуць аказацца дагаворы аб удзеле прадпрыемстваў у будаўніцтве для пэўных аб'ектаў аховы асяроддзя ў памеры плацяжоў за звышнарматыўнае забруджванне навакольнага асяроддзя, нават і не звязаных непасрэдна з іх вытворчай дзейнасцю. Магчыма, мэтазгодным будзе і продаж прадпрыемствам правоў на пэўны ўзровень забруджвання навакольнага асяроддзя ў канкрэтным месцы. Усе гэтыя рычагі павінны набліжаць нас да стварэння экалагічна чыстых прамысловых экасістэм аналагічных біялагічным экасістэмам. І гэтая ідэя павінна стаць агульнапрызнанай. Але для таго каб дасягнуць патрэбнага баланса паміж вузкімі эканамічнымі выгадамі прадпрыемстваў і захаваннем экалагічнай чысціні ў раёнах іх размяшчэння, неабходны комплексны падыход з улікам галіновых і тэрытарыяльных інтарэсаў.

Плацяжы за забруджванне навакольнага асяроддзя і плата за выкарыстанне прыродных рэсурсаў — гэта найважнейшы напрамак радыкальнай эканамічнай рэформы ў актывізацыі таварна-грашовых адносін, паварот прадпрыемстваў да гасразліковых умоў. Агульная сума затрат на ахову навакольнага асяроддзя ў Беларусі на 1991 год складзе каля 3 працэнтаў нацыянальнага даходу супраць 0,5 — 0,7 працэнта за мінулую пяцігодку (для параўнання: у Японіі — 9, ЗША і Швецыі — 7 працэнтаў).

Такім чынам, кардынальным выхадам у справе аздараўлення навакольнага прыроднага асяроддзя ў Беларусі, асабліва ў гарадах і прамысловых цэнтрах з напружаным экалагічным становішчам, стане фінансавая самастойнасць рэспублікі, якая дазваляе пераразмяркоўваць матэрыяльныя, працоўныя і фінансавыя рэсурсы на экалагічныя патрэбы.

Ёсць усе падставы зрабіць нашу Беларусь за кароткі тэрмін экалагічна непаражальнай ад прамысловых вытворчасцей. Для гэтага нялішне, каб Дзяржкампрыроды БССР меў больш высокія і шырокія паўнамоцтвы, надведамасную ўладу. Мы абавязаны сфарміраваць юрыдычную катэгорыю «экалагічнага злачынцы».

**Валерый ЯРМОЛЕНКА.**

## ЗАБЫТЫЯ ЛЮДЗІ





**Невялікая хацінка, дзе жыве Наталля ЯСЬКОВА, стаіць на ўскрайку лесу ў баку ад вёскі Тумарын, што ў Веткаўскім раёне. Маленькі, абнесены плотам дворык засыпаны снегам. На сцяжынцы, якая вядзе да яго, толькі дзве нітачкі слядоў: мусіць, па ваду — і назад.**

**Раней Наталля Сяргееўна радавалася снегу: ён даваў надзею на добры ўраджай. Цяпер старая яна, каб працаваць у полі. Няма сіл спраўляцца нават з невялікім агародам. А таму ад снегу Наталлі Сяргееўне цяпер толькі засмучэнні: холадна, голадна, ды і страшнавата. Аднойчы ў яе дом ужо ўвалілася група выпіўшых хлапцоў. Забралі, хоць і невялікія грошы, але ўсё, што было — сорак рублёў. Павыбівалі вокны.**

**Дачка, якая прыехала неўзабаве з райцэнтра, шыбы ўставіла. Але пажыць у сябе Наталлі Сяргееўне не прапанавала. Відаць, па яе разуменню, «не ўпісваецца» маці ў гарадскую кватэру. «Не ўпісваецца», напэўна, Наталля Сяргееўна і ў план пасялковага і сельскага Саветаў, якія па доўгу службы павінны былі б зацікавіцца, як жывецца на хутары старому чалавеку.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# АПАЭТЫЗАВАЦЬ? НЕ, ДАСЛЕДАВАЦЬ!

*Летась у маі (гл. «Голас Радзімы», №№ 18, 19 за 1990 год) кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны Інстытута гісторыі АН БССР Аляксей Літвін у гутарцы з нашым карэспандэнтам на падставе дакументаў і фактаў паспрабаваў па-новаму асэнсаваць падзеі Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі. Сёння ў нас ёсць магчымасць прадаставіць слова яшчэ аднаму члену адзінага ў рэспубліцы спецыяльнага навуковага падраздзялення, занятага распрацоўкай ваеннай гісторыі Беларусі,— старшаму навуковаму супрацоўніку названага інстытута, кандыдату гістарычных навук Уладзіміру КУЗЬМЕНКУ.*

**— Уладзімір Іванавіч, як працуецца ў цяперашніх умовах гісторыку, які даследуе ваенны перыяд? Наш бурны час, не сумняваюся, унёс нямала перамен у дзейнасць вучоных, якія вывучаюць мінулае рэспублікі?**

— Працуецца вельмі няпроста. Разуменне гэтага можна было вынесці і з інтэрв'ю з А. Літвіным, якое было апублікавана вашай газетай. Са свайго боку, хачу падкрэсліць, што ў нас у краіне хлеб гісторыка-даследчыка быў і застанецца нялёгкім. Вельмі слабая тэхнічная аснашчанасць даследчай працы, неўпарадкаванасць (па цывілізаваных мерках) архіўных фондаў, недаступнасць да сённяшняга дня шэрагу матэрыялаў гавораць самі за сябе. Зрухі да лепшага праяўляюцца ў тым, што сёння закранаць можна практычна любую праблему. Гавары, публікуй, калі здабыў матэрыял і гатовы адстаяць у спрэчцы з апанентамі ўласнае бачанне рэчаіснасці. А спрачацца ёсць аб чым. Хаця, здавалася б, за мінулыя паўстагоддзя з пачатку другой сусветнай вайны тагачасныя падзеі, што адбываліся ў Беларусі, ужо добра вывучаны. Тым не менш даводзіцца канстатаваць, што тэма вайны яшчэ не ахоплена ва ўсёй яе глыбіні і складанасці. Раней мы бачылі пераважна гераіку барацьбы з фашызмам. Аднак жа ёсць і другі бок ваеннай рэчаіснасці — цяжкія мукі і гібель мільёнаў людзей, не толькі перамогі, але і паражэнні, няўдачы, побач з узлётам чалавечага духу — нізасць і подласць (на сваім жа баку барыкад). Спробы адысці ад аднабаковасці ў ваеннай гістарыяграфіі перыяду сталінскага культу рабіліся гісторыкамі ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў. Затым, на жаль, у гістарычным цэху надоўга запанаваў афіцыйна-ахоўны напрамак, апалагетыка, ухіл да ўсхвалення. Прызнавался адна пазіцыя: «пераможцаў не судзяць». На падрабязным вывучэнні прычын ваенных няўдач, асвятленні недахопаў у кіраўніцтве баявымі дзеяннямі, негатыўных момантаў у армейскім і партызанскім асяроддзі, іншых эпізодаў ваеннага жыцця, што не прыносілі палітычнага капіталу, ляжала сакрэтнае табу. Такія матэрыялы ў друк, за рэдкім выключэннем, не прабіваліся.

Выпрацоўка нетрывіяльных пунктаў гледжання на падзеі ваеннага часу паскорылася толькі з разгортваннем перабудовачных працэсаў у краіне. Сёння спрэчкі, што адбываліся сярод даследчыкаў ваеннай гісторыі Беларусі некалькі гадоў назад, успрымаюцца нават паблажліва. Бо даказвалі, здавалася б, відавочныя рэчы. У прыватнасці, на зары перабудовы на адным са сходаў свежа гучала такая думка: «Гісторыкам у сваіх працах, у лекцыях трэба паварочвацца тварам да праўды. Паказваць, напрыклад, не толькі, як партызаны грамілі карнікаў, але і тое, як брыгада магла выйсці з акружэння, страціўшы да палавіны і больш асабовага складу». Для сярэдзіны 80-х гэта, магчыма, было і смела. Бо пакуль што панавала спушчаная гісторыкам рэспублікі ідэалагічная ўстаноўка: «апаэтызаваць народную барацьбу супраць акупантаў». Гэтая ўстаноўка прасочваецца, у прыватнасці, у заўвагах сакратароў ЦК КПБ П. Машэрава і А. Кузьміна (існуе такі дакумент) на макет трохтомнага выдання «Усенародная барацьба ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны». Пра няўдачы, пралікі, цяжкія страты патрыётаў, пра многае іншае, вартае смутку, дазволіў гаварыць без аглядкі толькі цяперашні час. Сёння, гаворачы словамі М. Гарбачова, нашы розум і сумленне не задавальняюць ранейшыя няпоўныя, а часам і недакладныя адказы на пытанні, зададзеныя вайной. Разбіты многія ідэалагічныя штампы і стэрэатыпы. Ідзе актыўная выпрацоўка новых пунктаў гледжання.

**— Калі мець на ўвазе стэрэатыпы, ідэалагічныя штампы, то што сёння гавораць вучоныя, напрыклад, пра вядучую ролю рабоча[illegible] класа ў партызанскім ру[illegible]ларусі?**

— Мне ўяўляецца, што гісторыкі ў даным выпадку паслухмяна выконвалі ідэалагічны заказ... Бо пра што сведчаць факты, статыстычныя даныя? Паводле з[illegible]к Беларускага штаба па[illegible]анскага руху (БШПР), жыхары нашай рэспублікі складалі да 90 працэнтаў ад агульнай колькасці народных мсціўцаў. Па свайму сацыяльнаму складу (да пачатку вайны) гэтыя людзі размяркоўваліся наступным чынам: на долю рабочых прыпадала 17,03 працэнта ад усёй колькасці партызан, сялян — 39,1, інтэлігенцыі і служачых — 20,55, навучэнцаў — 12,16 працэнта. Відавочна, што больш за ўсё байцоў, удзельнікаў узброенай барацьбы з акупантамі дэлегіравала сялянства Беларусі. Яму давялося ўзяць на сябе і асноўны цяжар забеспячэння народных мсціўцаў прадуктамі харчавання, адзеннем і абуткам... У вёсках партызаны спыняліся на адпачынак, іншы раз і доўгі час базіраваліся, атрымлівалі садзейнічанне і папаўненне. Рознабаковая дапамога шматмільённых сялянскіх мас партызанскім атрадам, брыгадам і злучэнням з'явілася гарантыяй іх жыццеўстойлівасці, давала магчымасць весці эфектыўную барацьбу з захопнікамі.

Вельмі значнай была ў партызанскім руху роля людзей інтэлектуальнай працы, інтэлігенцыі. У наладжванні арганізатарскай работы сярод насельніцтва акупіраваных раёнаў, стварэнні партызанскіх фарміраванняў і кіраўніцтве імі шырока скарыстоўваліся веды, вопыт арганізатарскай працы, навыкі работы з людзьмі партыйных, савецкіх, камсамольскіх і гаспадарчых кіруючых работнікаў, настаўнікаў і іншых інтэлігентаў, якія ўключыліся ў барацьбу з ворагам. Інтэлігенцыя Беларусі на працягу ўсяго часу акупацыі з'яўлялася адной з важнейшых крыніц камплектавання каманднага саставу атрадаў і брыгад. Так, у канцы 1942 года на долю толькі кіруючых работнікаў, настаўнікаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў, аграномаў і ўрачоў прыпадала больш за 63 працэнты сярод улічаных БШПР камандзіраў і камісараў партызанскіх атрадаў, а на 1 ліпеня 1943 года — 52 працэнты ад агульнай колькасці камандзіраў, камісараў і начальнікаў штабоў брыгад. Прадстаўнікі інтэлігенцыі склалі таксама значную частку кантынгенту ідэалагічных работнікаў партызанскіх фарміраванняў, унеслі важкі ўклад у разгортванне ў варожым тыле масавай палітычнай агітацыі. Прыродазнаўчанавуковыя, тэхнічныя і іншыя веды спецыялістаў з поспехам прымяняліся ў баявой дзейнасці, у дыверсійных аперацыях. Вялікае значэнне для забеспячэння жыццядзейнасці партызанскіх падраздзяленняў мела праца медыцынскіх кадраў.

Тысячы актыўных байцоў, якія з'яўляліся ядром многіх партызанскіх фарміраванняў, вылучыў са свайго асяроддзя і рабочы клас. Нямала яго прадстаўнікоў стала вядомымі партызанскімі важакамі. Аднак у цэлым удзельная вага рабочых у кіруючых кадрах фарміраванняў народных мсціўцаў невысокая (па стану на 1 ліпеня 1944 года — нямногім больш за 9 працэнтаў ад агульнай колькасці ўзятых БШПР на ўлік камандзіраў, камісараў і начальнікаў штабоў партызанскіх атрадаў). Рабочыя, уліўшыся ў рады «лясных салдат», хутка асвойвалі ўзбраенне, падрыўную тэхніку, умела прымянялі ў партызанскай дзейнасці прафесіянальныя навыкі. Многія з іх сталі ў атрадах арганізатарамі зброевых майстэрань, выплаўкі толу, стваральнікамі дыверсійных груп, што дзейнічалі на камунікацыях праціўніка, прынеслі вялікую карысць у наладжванні саматужнай прамысловасці партызанскіх зон. Дзеянні рабочых у складзе партызанскіх фарміраванняў неабходна разглядаць, вядома, у цеснай узаемасувязі з барацьбой тысяч і тысяч іх таварышаў ва ўмовах падполля, у населеных пунктах, якія кантраляваў вораг. Роля рабочага класа ў шырокім супраціўленні захопнікам стане яшчэ больш зразумелай, калі ўспомніць, што кіраўніцтва патрыятычным рухам народных мас у тыле праціўніка ажыццяўлялася арганізацыямі пралетарскай, рабочай партыі, ВКП (б). І ўсё ж гаварыць пра вядучую ролю нейкага аднаго сацыяльнага слоя ў барацьбе на акупіраванай тэрыторыі, на наш погляд, не даводзіцца. Прадстаўнікі розных груп насельніцтва рэспублікі дзейнічалі супраць агульнага ворага ў цесным адзінстве, а таксама адзіным фронтам з людзьмі з іншых раёнаў СССР, якіх ваенны лёс закінуў у Беларусь. У гэтай згуртаванасці быў залог баявых поспехаў партызан і падпольшчыкаў, якімі мы па праву ганарымся.

**— Які ваш пункт гледжання на ролю савецкіх ваеннаслужачых у партызанскай барацьбе? Аб іх укладзе ў разгортванне руху супраціўлення ў Беларусі гісторыкі, наколькі я магу меркаваць, пісалі раней не вельмі ахвотна, у нейкіх прыглушаных танах. Чым гэта было выклікана?**

— Справа ў тым, што нашы вучоныя вялі шматгадовую палеміку з шэрагам замежных аўтараў, якія таксама вывучалі гісторыю Беларусі перыяду вайны. Існавалі апасенні, як бы не даць лішніх аргументаў у рукі апанентаў у спрэчцы, што зацягнулася: партызанская барацьба, супраціўленне ворагу— гэта народны рух, выступленні саміх мясцовых жыхароў, якія адстойвалі даваенны грамадскі лад ці акцыі, інспіраваныя Сталіным з-за лініі фронта, «справа рук Масквы»? Ісціна, вядома, была на баку савецкіх аўтараў. Як мы з вамі ўжо высветлілі крыху раней, пераважная большасць удзельнікаў партызанскага руху ў Беларусі— гэта карэннае насельніцтва рэспублікі. Пры ўсіх складанасцях тагачаснага ўнутрыпалітычнага становішча ў СССР асноўная частка жыхароў акупіраваных ворагам раёнаў зрабіла адназначны выбар — уключылася ў барацьбу супраць чужаземных прыгнятальнікаў, за свабоду і незалежнасць Радзімы. Гэта нашымі гісторыкамі было зафіксавана дакладна. Аднак аг[illegible]дка на замежжа пастаянна [illegible]мушала пры напісанні даследчых работ падстрахоўвацца, не асабліва канцэнтраваць увагу на «слізкіх» момантах барацьбы ў тыле праціўніка, што не ўкладваліся ў агульную [illegible]му, патрабавалі дадатковых [illegible]рунтаванняў. Гэта тычыла і асвятлення ролі ваеннаслужачых у партызанскім руху.

Іх уклад у барацьбу з акупантамі вельмі важкі. Пачнём з лічбаў. Згодна са статыстычнымі данымі, распрацаванымі БШПР, на 282,5 тысячы партызан ваеннаслужачыя склалі каля 11 працэнтаў. Афіцыйна зафіксаваная колькасць савецкіх воінаў, якія прымалі ўдзел у партызанскім руху на беларускай зямлі,— 31 511 чалавек. Аднак варта мець на ўвазе, што звыш 90 тысяч партызан аказаліся не ахопленымі статыстыкай БШПР. Гэта дае падставу меркаваць, што колькасць ваеннаслужачых у радах народных мсціўцаў была большай. Асноўную іх масу склалі байцы і камандзіры часцей Чырвонай Арміі, якія трапілі летам 1941 года ў варожае акружэнне і не змаглі прабіцца на злучэнне з галоўнымі сіламі. Затым штабамі партызанскага руху з-за лініі фронта была паслана ў Беларусь з мэтай павышэння баяздольнасці фарміраванняў народных мсціўцаў некаторая колькасць ваенных спецыялістаў рознага профілю. Акрамя таго, рады партызан папаўняліся ваеннаслужачымі, якія ўцяклі з фашысцкага палону, а таксама ваеннымі, якія аказаліся па розных прычынах на службе ў варожых падраздзяленнях і змаглі ў выніку знайсці правільны шлях.

Ведаючы законы армейскага жыцця, маючы франтавы вопыт барацьбы з захопнікамі, афіцэры, а таксама іншыя ваеннаслужачыя актыўна вылучаліся на камандныя пасады ў партызанскім асяроддзі. Яны складалі да 65 працэнтаў ад агульнай колькасці камандзіраў, камісараў і начальнікаў штабоў партызанскіх брыгад, улічаных БШПР па стану на 1 ліпеня 1944 года.

(Працяг будзе).

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

Вельмі паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!

Нядаўна трапілася мне ў рукі ваша газета. Мушу зазначыць, што яна мне надта спадабалася. Гэта сапраўдны беларускі голас з Бацькаўшчыны! У 42-м нумары за 1990 год вы звярнуліся да замежных суайчыннікаў адносна падпіскі. Вось я і ёсць адзін з іх, толькі не ведаю, якім чынам унесці плату за газету. Перасылаю вам праз мясцовы банк 20 канадскіх долараў. Дайце мне знаць, ці хопіць гэтай сумы на падпіску.

**Д. КУРЫЛОВІЧ.**
Канада.

**АД РЭДАКЦЫІ. Выказваючы вялікую ўдзячнасць спадару Курыловічу за добрыя словы і інтарэс да «Голасу Радзімы», а, значыць, да роднай мовы і культуры, хочам звярнуць увагу нашых чытачоў на нашы аб'явы. Там вы знойдзеце адказ на ўсе пытанні і падпіскі, і дапамогі газеце.**

## МНЕ БАЧЫЦЦА ВЫЙСЦЕ

Заходняе тэлебачанне часта паказвае чэргі перад савецкімі магазінамі, а затым і іх пустыя паліцы. Потым мы бачым крамы, дзе прадаюцца тыя ж прадукты па вольнай рыначнай цане, недаступнай для радавога савецкага грамадзяніна. Размеркаванне прадуктаў па талонах не ратуе савецкі народ ад узнікшага ў краіне харчовага крызісу. Ва ўсіх гэтых бедах абвінавачваецца сацыялізм. Але трэба заўважыць, што тэлевізійныя навіны не паказваюць чэргаў за бясплатным супам для бедных, беспрацоўных у ЗША і ў іншых заходніх краінах. Буржуазная інтэлігенцыя параўноўвае сучаснае эканамічнае становішча ў СССР з такім жа, што існавала ў Аўстра-Венгерскай імперыі ў час першай сусветнай вайны.

Многія заходнія эканамісты прытрымліваюцца думкі, што эканамічны крызіс у Савецкім Саюзе можна вырашыць уводзеннем кантролю над цэнамі на сельскагаспадарчыя прадукты. На вольным рынку трэба дазволіць прыватніку прадаваць сваю прадукцыю па ўстаноўленай для яго цане. Гэта прымусіць фермера вырабляць больш прадукцыі, калі ён жадае мець такі ж прыбытак, які меў раней. Дзяржаўныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы павінны атрымліваць справядлівую цану за прадукты высокай якасці. А, каб устанавіць роўныя, справядлівыя правы для працоўных гэтых гаспадарак, неабходна знізіць плату за працу лайдакам і тым, хто не жадае працаваць на карысць гэтых саўгасаў і калгасаў. Такія правілы прывядуць да спаборніцтва паміж прыватным і дзяржаўным сельскагаспадарчымі сектарамі і паслужаць павелічэнню прадукцыі, павышэнню жыццёвага ўзроўню насельніцтва СССР. Краіна пазбавіцца ад цёмных дзялкоў. А народ зможа спакойна працаваць як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці. І перабудова будзе рухацца хуткімі тэмпамі.

**Гары ТОМСАН-ТРЭБІЦКІ.**
Аўстралія.

Іван САВЕРЧАНКА

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА



1

**Сярод многіх слынных асоб старажытнай Беларусі адметнае месца займае Леў Сапега (1557—1633) — чалавек выключных здольнасцяў, прыроджаны дыпламат і палітык, найадукаванейшы юрыст ды таленавіты літаратар-публіцыст.**

**На жаль, у беларускай гістарыяграфіі аб яго шматгадовай чыннасці дасюль няма аніякіх грунтоўных навуковых даследаванняў, адсутнічаюць нават папулярныя артыкулы, хаця Леў Сапега ў канцы XVI — першыя тры дзесяцігоддзі XVII стагоддзяў зрабіў неверагодна шмат у барацьбе беларусаў за эканамічную, дзяржаўна-палітычную ды рэлігійна-культурную незалежнасць.**

2

I

У праваслаўным доме паноў Сапегаў па старадаўняму дваранскаму звычаю адукацыяй дзяцей пачыналі займацца ў раннім узросце. Такі ж шлях чакаў і Льва Сапегу, аднаго з шасцярых дзяцей мнагадзетнай сям'і.

Прыкладна сямігадовым хлопчыкам бацькі Льва — Іван Іванавіч Сапега, драгічынскі стараста, ды маці Багдана, ураджоная Друцкая-Сакалінская — аддалі яго ў нясвіжскую пратэстанцкую школу, што існавала пры двары вядомага беларускага князя-асветніка, лідэра мясцовага рэфармацыйнага руху Мікалая Радзівіла Чорнага.

Сапегі-старэйшыя былі адвеку праваслаўнымі, але, пазбаўленыя рэлігійнага фанатызму, яны без усялякіх ваганняў накіравалі сваё дзіця ў пратэстанцкую школу, не баючыся аніякай «ерасі». Выхаваныя на асветніцкіх гуманістычных ідэях, яны свой галоўны бацькоўскі абавязак бачылі ў тым, каб даць сваім дзецям (апроч Льва ў сям'і было яшчэ двое сыноў — Рыгор ды Андрэй, а таксама тры дачкі — Ганна, Зоф'я і Фядора) добрую адукацыю. А радзівілаўская школа на той час якраз з'яўлялася лепшай навучальнай установай на Беларусі.

У Нясвіжскім замку, куды прывезлі Льва Сапегу, на той момант жылі і працавалі запрошаныя гаспадаром Мікалаем Радзівілам Чорным вядомыя ва ўсёй Еўропе дзеячы тагачаснай навукі і культуры: Францыск Лісманіні, Ян Ласкі, Георгій Бландрата, Сымон Зак, Францыск Станкар, Марцін Кравіцкі ды многія іншыя. Тут яны пісалі свае філасофска-тэалагічныя трактаты, займаліся перакладамі антычных

3

і сярэдневяковых твораў, рыхтавалі да выдання знакамітую Брэсцкую Біблію 1563 года. Некаторыя з іх адначасна выкладалі ў тамашняй школе. Менавіта ў Нясвіжы, асяродку рэфармацыйнага руху на Беларусі, пад дахам замка князёў Радзівілаў, ля таго часу працавалі таксама беларускія мысліцелі — Сымон Будны, Лаўрэнці Крышкоўскі ды Мацвей Кавячынскі. Тут у 1562 годзе яны здзейснілі свой подзвіг — выдалі першую на тэрыторыі сучаснай Беларусі кнігу на народнай мове — «Катэхізіс»*, што выкарыстоўваўся як падручнік у пачатковых пратэстанцкіх школах**. Якраз «Катэхізіс» 1562 года і быў той першай кніжкай, па якой Леў Сапега навучыўся чытаць на матчынай мове, з якой ён атрымаў пачатковыя звесткі аб сусвеце ды Богу.

Нясвіжскі гурток гуманістаў, сярод якіх выхоўваўся Л. Сапега, рашуча паўплываў на станаўленне яго асобы. Незабыўнае ўздзеянне на ўражлівага юнака зрабіла захопленасць гуманістаў навукамі, іх культура ды эрудыцыя. Вучоныя, паэты, мастакі валодалі ледзьве не ўсімі еўрапейскімі ды класічнымі мовамі. Яны стварылі пры двары Радзівілаў сапраўдны культ

* Для параўнання згадаем, што першая друкаваная кніга ў Маскве — «Апостал», падрыхтаваная беларусам Пятром Мсціслаўцам ды Іванам Фёдаравым, з'явілася толькі ў 1564 годзе,— на два гады пазней за нясвіжскі «Катэхізіс».

** Да цяперашняга часу захавалася ўсяго некалькі «Катэхізісаў» 1562 года. Асобныя экземпляры гэтага найкаштоўнейшага выдання цяпер зберагаюцца ў кнігасховішчах Масквы, Ленінграда, Кракава, Прагі.

4

філалогіі, адданым прыхільнікам якога стаў і таленавіты юнак.

Прыродныя здольнасці Льва Сапегі і яго схільнасць да навук, трапіўшы на дабратворную глебу, выявіліся вельмі рана. Хуткаму разумоваму сталенню юнака надзвычай спрыяла атмасфера духоўнасці, што панавала ў доме Радзівілаў, і тыя творчыя вечары ды навуковыя дыспуты, якія адбываліся ў Нясвіжскім замку ледзьве не на кожны тыдзень, асабліва падчас працы гуманістаў над перакладамі біблейскіх тэкстаў. Для Льва яны сталі выдатнай школай авалодання мастацтвам палемікі, своеасаблівым жыццёвым арыенцірам і ўзорам чалавечых узаемаадносінаў.

Шмат часу юнак праводзіў у радзівілаўскай бібліятэцы, дзе ўжо тады меліся найбагацейшыя зборы старажытных рукапісаў ды еўрапейскіх кнігадрукаў апошняй чвэрці XV — першай паловы XVI стагоддзяў. Хлопчык імкліва назапашваў веды. Унікальнае, нават на сённяшні дзень выкладанне ў школе разам з паўсядзённым акружэннем высокаадукаваных людзей садзейнічалі неверагодна хуткаму вывучэнню моваў. Ужо ў дзяцінстве Леў Сапега, акрым роднай беларускай, выдатна валодаў польскай, нямецкай, лацінскай і часткова грэчаскай мовамі. Розум здольнага юнака, ускормлены філалогіяй, быў падрыхтаваны для засваення тагачаснага універсітэцкага курса.

У трынаццацігадовым узросце — на год раней, ніж славуты палачанін Францішак Скарына — Леў Сапега разам з дзецьмі Мікалая Радзівіла Чорнага, яго равеснікамі — Юрыем ды Станіславам, накіроўваецца ў Германію і паступае ў знакаміты Лейпцыгскі універсітэт, дзе

5

на працягу некалькіх год вывучае гісторыю рымскага і царкоўнага права, глыбока аналізуе творы антычных філосафаў, найперш Платона і Арыстоцеля, уважліва прачытвае хронікі сярэдневяковых гісторыкаў ды трактаты тэолагаў-схаластаў, знаёміцца з творамі рэнесанснага мастацтва, знаходзіцца пад уражаннем гравюраў А. Дзюрэра, нарэшце, захапляецца ідэямі Лютэра, Кальвіна, Цвінглі і становіцца свядомым прыхільнікам пратэстантызму. Праўда, многа пазней пра сваё юнацкае захапленне рэфармацыйнымі вучэннямі ён скептычна сказаў: «Быў я тады падкі на розныя спакусы і пакорны, нібы авечка, асабліва, калі вучыўся ў нямецкіх ерэтычных школах». Аднак, нягледзячы на гэтакую самакрытычнасць Льва Сапегі і нібыта несур'ёзнасць яго духоўных пошукаў падчас навучання ў Германіі, Лейпцыгскі універсітэт на самай справе даў яму ўсё, што ён пазней так бліскуча выкарыстае ў сваім жыцці.

II

На радзіму Леў Сапега вярнуўся недзе пасля 1572 года, калі памёр бяздзетны кароль і вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст, апошні нашчадак дынастыі Ягелонаў. Рэч Паспалітая перажывала тады цяжкія часы: адсутнасць прамога пераемніка на прастол абвастрыла барацьбу паміж буйнейшымі дваранскімі групоўкамі, павялічыла і без таго шматлікія беспарадкі ў гаспадарстве. Чым займаецца Леў Сапега ў гэты складаны час, на жаль, невядома. Відаць, першыя гады на радзіме былі вельмі няпростымі і ў яго жыцці. Толькі прыкладна пасля 1576 года, з абраннем каралём і вялікім князем Рэчы Паспалітай сямігародскага ваяво-

6

ды Стафана Батуры, фартуна злітасцівілася над Львом Сапегам. Па хадайніцтву яго апекуна, князя Мікалая Радзівіла Рудога, Сапегу прынялі на службу да двара Стафана Батуры.

У асвечанага манарха выклікаў сімпатыі адукаваны і сціплы ў паводзінах малады чалавек, што старанна выконваў усе даручэнні, якія яго аднагодкі, мажліва, палічылі б сумнымі і нецікавымі. Акрым таго, юнак здзіўляў прыдворных аўтарытэтаў юрыдычнай навукі сваім глыбокім веданнем заканадаўства Вялікага Княства і Польшчы, указваючы нат на некаторыя іх хібы і прапаноўваючы шляхі выпраўлення асобных статутавых артыкулаў. Пры гэтым свае меркаванні Леў Сапега пацвярджаў спасылкамі на гісторыю права і заканадаўчыя кодэксы іншых еўрапейскіх краінаў.

Паказальны адзін выпадак, што адбыўся ў прысутнасці Стафана Батуры падчас так званага задворнага каралеўскага суда, дзе разглядалася маёмасная справа бацькі Льва Сапегі. Выступаючы ў ролі адваката, Леў яшчэ раз прылюдна прадэманстраваў сваю выключную юрыдычную дасведчанасць. Маючы цудоўную памяць, ён з бездакорнай дакладнасцю цытаваў артыкулы Статута 1566 года, з лёгкасцю і незвычайнай лагічнай выверанасцю сваіх думак абвяргаў усе выказаныя супроць яго аргументы. Невядома, ці быў пан Сапега сапраўды вінаваты, але судовы працэс малады адвакат бліскуча выйграў.

Прырода шчодра надзяліла Льва Сапегу моцным розумам і працаздольнасцю. Ён мог падоўгу, без усялякай мітусяніны і нават з асалодай займацца адной справай, а напрыкан-

7

цы — надаць ёй тую абсалютную завершанасць і бляск, што ні ў кога не ўзнікала і думкі, каб штосьці выпраўляць ці перарабляць. Прыемная знешнасць маладога Сапегі без паданасці і крыклівага пазёрства, унутраны спакой ды заўсёдная ўпэўненасць без долі самалюбавання і ганарыстасці разам з карэктнымі і ўважлівымі адносінамі да субяседніка заўсёды стваралі вакол яго атмасферу душэўнага камфорту, цеплыні і абаяльнасці. Не выпадкова Стафан Батура празорліва заўважыў у гэтым не па гадах дарослым юнаку талент «дзяржаўнага» чалавека. І ён не памыліўся. У асобе Льва Сапегі сапраўды спалучалася ўсё тое, што дазваляла яму хутка ўзняцца па іерархічнай лесвіцы. Вядома ж, на той час яму яшчэ не ставала жыццёвага вопыту, але, як і багацце ды слава, яны прыйшлі да яго крыху пазней, разам з вялікай уладай і слыннымі справамі.

III

Галоўнай умовай набыцця якой-небудзь значнай пасады ў складанай іерархічнай структуры Рэчы Паспалітай з'яўлялася, як, дарэчы, і ў кожнай сярэдневяковай дзяржаве, адданае служэнне манарху ды абарона гаспадарства ад знешніх ворагаў. Для Льва Сапегі, які марыў аб кар'еры, хутка прадставілася мажлівасць праявіць сябе на гэтай ніве: у 1579 годзе распачалася вайна Рэчы Паспалітай з усходнім суседам — Маскоўскаю Руссю за вызваленне гарадоў і земляў, заваяваных Іванам IV Жахлівым.

На асабістыя сродкі, прынятыя ў спадчыну ад бацькі, Леў Сапега сфарміраваў харугву і ў складзе каралеўскага войска мужна змагаўся

8

пад Вялікімі Лукамі, Псковам ды Завалачам. Па завяршэнні баявых дзеянняў, як узнагароду за подзвігі, учыненыя на вачах караля і вялікага князя Стафана Батуры, ён атрымаў вельмі прэстыжную і, галоўнае, надзвычай перспектыўную пасаду сакратара Вялікага Княства. З гэтага моманту Сапегу становяцца даступныя ўсе важнейшыя гаспадарскія тайны. Пачынаецца яго шлях як палітычнага дзеяча.

Ужо ў першы год прабывання на пасадзе сакратара вялікай канцылярыі акрэслілася жыццёвае крэда і сэнс усяго будучага жыцця Льва Сапегі. Ён становіцца барацьбітом за незалежнасць Вялікага Княства ў складзе Рэчы Паспалітай, штočасна думаючы аб умацаванні яго эканамічнае ды палітычнае моцы. Першы значны крок Сапегі на гэтым шляху — стварэнне ў 1581 годзе разам з канцлерам Астафіям Валовічам ды падканцлерам Мікалаем Крыштофам Радзівілам Перуном Трыбунала Вялікага Княства — вышэйшага гаспадарскага суда. Паколькі ў Польшчы, што прэтэндавала на лідэрства ў Рэчы Паспалітай, падобны дзяржаўны орган існаваў ужо каля 11 год, то ўтварэнне Трыбунала ў Княстве, апроч узмацнення дзейнасці законаў, мела яшчэ і прэстыжныя меркаванні: перадусім — дэманстравала моц гаспадарства, яго здольнасць забяспечыць поўную абарону правоў сваіх грамадзянаў.

Нягледзячы на цяжкасці і перашкоды, з якімі сутыкнуўся Сапега ў падрыхтоўчы перыяд, Трыбунал Вялікага Княства адразу ж пасля яго ўтварэння набыў статус аўтарытэтнейшай судовай інстанцыі і заставаўся такім на працягу ўсяго існавання гаспадарства.

**(Працяг будзе).**

# ЛЕТАПІСЕЦ НЕПРЫДУМАНАЙ ПРАЎДЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

«Зямля — сялянам!» — гэта ўсур'ёз і надоўга. Спачатку так і было: глінішчанцы атрымалі зямельныя надзелы, у тым ліку і бацькі Мележа. Колькі гадоў, пакуль не пачалася гвалтоўная калектывізацыя, якая і на Палессі, як усюды, суправаджалася эксцэсамі класавай варожасці і раз'юшанасці, людзі, падобна, зведалі радасць працы на сваёй зямлі. Беларуская літаратура таго часу, апавядаючы пра гэта, не лгала.

Лёс быў літасцівы да сям'і Мележа і да яго самога: раскулачванне іх не кранула, голад на Украіне 1933 года, які зачапіў краем паўднёвыя раёны Беларусі, абышоў бокам, пад рэпрэсіі не папалі, цяжкае раненне ў пачатку вайны з фашызмам завяршылася ачуньваннем, і Іван Паўлавіч меў магчымасць вучыцца. Больш таго, у час, калі цяжка было не толькі выжыць, але і застацца пры гэтым чалавекам, ён стаў пісьменнікам, які не падладжваўся пад вымогі «спецрэалізму».

Вайну І. Мележ сустрэў на самай граніцы, дзе стаяла яго вайсковая часць, і ўжо ў першыя дні напоўніцу зведаў, што такое вайна «ў яе сапраўдным выяўленні» (Л. Талстой). Адступаючы, у рэдкія моманты зацішша, ён вёў дзённік. Падрыхтаваны да друку самім аўтарам, гэты дзённік быў апублікаваны неўзабаве пасля смерці Мележа пад назвай «Першая кніга». «Першая», якая стала і апошняй. Яна не згубілася сярод усяго напісанага пра мінулую вайну. У ёй чуўся шчыры голас сведкі падзей, непрыдуманая праўда пра дні адступлення і мужнасці. У тыя дні малады празаік убачыў, які ён, апрануты ў салдацкі шынель селянін, на што здатны ў час смяротнай пагрозы. Гэты чалавек стаў героем яго першых апавяданняў.

Дарэчы, у Мележа была магчымасць стаць вучоным (ён пасля вайны працаваў нейкі час выкладчыкам ва універсітэце) або партработнікам (кароткі перыяд ён быў інструктарам ЦК КПБ). Але ён стаў проста пісьменнікам, дыхаў паветрам літаратуры, культуры і ўжо, магчыма, таму здолеў захаваць ва ўмовах татальнага ўдушэння ўсяго творча актыўнага чалавечнасць і сумленнасць. З вялікім напалам пісаў Мележ свой першы раман «Мінскі напрамак», прысвечаны падзеям вайны. Раман не вылучаўся з шэрагу тагачасных эпічных твораў, мэтай якіх было стварэнне панарамы вайны, а не паказ канкрэтнага чалавека на вайне. Там, дзе ў Мележа быў гэты чалавек, удзельнік вайны, лейтэнант Лагуновіч ці генерал Чарняхоўскі, яго напаткала творчая ўдача. Урэшце праца над раманам была добрай школай творчасці для аўтара.

Самым важным урокам сталася тое, што І. Мележ зразумеў: каб твор быў цікавым і патрэбным, яго аўтар не павінен хаваць свае адносіны да падзей, словатворчасць мае сэнс тады, калі ў яе аснове — асабісты вопыт душы, памяць сэрца. Гэты зрух у мастацкай свядомасці пісьменніка адбыўся ў атмасферы грамадскага ажыўлення 50-60-х гадоў, адмаўлення стэрэатыпаў ідэалізаванага мыслення і сцвярджэння эстэтыкі жыццёвай праўдзівасці. Так нарадзілася добрае ўзаемнае яднанне, паводле выразу Мележа, «герояў, часу і аўтара», у выніку якога ўзнікла і была здзейснена задума рамана «Людзі на балоце».

У гэтым творы чытача ўразіла шырыня пісьменніцкага погляду на гісторыю беларусаў, якая ўключае шматстайныя «галасы» і «постаці», калі галоўным героем стаў сам народ. І. Мележ даў ход сваім самым задушэўным пачуццям і думкам, адкрыў шлях успамінам, што ляжалі некранутымі на дне душы. Адкідваючы вузкія схемы сацыяльнай тыпалогіі, класавага падзелу, жорсткую ідэалагічную абгрунтаванасць прычын і вынікаў чалавечых учынкаў, Мележ напісаў кнігу, дзе «цудоўнае жыло ў звычайным, трагізм — у звычайным, вялікае — у звычайным». У беларускай літаратуры ўпершыню пасля Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага на поўны голас загучала праўда пра гады так званага вялікага пералому, калі пачалося рассяляньванне беларускай вёскі, якое прывяло да эканамічнага калапсу і духоўнай дэградацыі.

Спачатку здаецца, што ў цэнтры ўвагі аўтара — класічны «любоўны трохкутнік»: Васіль Дзяцел — Ганна Чарнушка — Яўхім Глушак-Корч. Так, чытач з сардэчным заміраннем сочыць за развіццём асабістых пачуццяў гэтых герояў, за тым, як умешваецца злы лёс і руйнуе каханне, падмяняючы яго «шлюбам па разліку». Аднак за ўсім, пра што апавядае пісьменнік у раманах «Людзі на балоце», а таксама «Подых навальніцы» і «Завеі. Снежань», пануе адна думка — думка пра зямлю. Васіль гэтак зжыўся з ёю, што і ў міг спаткання зводзіць гаворку да падзелу зямлі, выказваючы ўголас сваю патаемную мару пра «Карчову палоску», дзе чарназём. Юнак, які пасля смерці бацькі стаў гаспадаром, ён ужо зведаў, што такое «ўлада зямлі», якая і робіць селяніна селянінам — не перакаці-полем, не манкуртам: «Уся сіла чалавека — у зямлі. І сіла ўся, і радасць! Няма зямлі — няма, лічы, і чалавека!» Пазней Мележ паказаў час, калі пачалася калектывізацыя і гэта «сіла» і «радасць», мара і надзея селяніна была гвалтам адчужана ад яго, і ён ужо не мог паўтарыць з гонарам словы героя вершаў Ф. Багушэвіча: «Свет магу карміць-гадаваць!»

Васіль Дзяцел верыць у вечныя законы людскога жыцця, для яго галоўная каштоўнасць — вольная праца на сваёй зямлі, а таму неахвотна, бы па прымусу, саступае так званаму новаму ў жыцці. Так, ён недаверлівы. Але як было паверыць селяніну ў тое, што нехта збоку падбае аб ім больш, чым ён сам, калі вопыт сведчыў аб адваротным?! Ён упарты. Але як яшчэ мог захаваць сваю незалежнасць селянін, над якім стаяла ўлада?! Тым не менш гэта чалавек XX стагоддзя, які зведаў, што такое ўласны гонар і якая цана чалавечаму жыццю: «Кажны прыходзіць, кажны камандуе, каму ахвота! Кажны — уласць над табой!» Менавіта да яго апеліруе знаўца паляшуцкай душы Апейка, які агітуе сялян за калектыў: «Моцны арашок!» У гэтых словах і асуджэнне, і захапленне: на такога льга спадзявацца, такі ніколі не падвядзе, калі толькі пераканаецца ў сваёй праўдзе! Далейшыя падзеі паказалі, што такіх гуманістаў і дэмакратаў, як Апейка, чакаў незайздросны лёс у сталінскіх Курапатах, а Васілёў ужо не пераконвалі, а проста ламалі, знішчалі. Як гэта адбывалася, чым завяршылася, Мележ меркаваў паказаць у наступных раманах, якім даў умоўную назву: «Куды ідуць дарогі?»

Сцэна, якая, на думку аўтара, павінна была завяршыць «Палескую хроніку», малявала Васіля Дзятла, што, прайшоўшы вайну да Берліна, вярнуўся ў родную вёску і на яе месцы застаў папялішча: «От яна, Карчова паласа. Якую прагнуў. Усё паламалася. Ні Ганны, ні зямлі. Дурань. Так, пэўне, трэба. І трэба жыць, як е. Як доля наканавала. Жыць».

І. Мележ не дажыў да чорнага красавіка 1986 года, калі радыеактыўная хмара накрыла яго родную вёску Глінішчы, тую ж «Карчову паласу», на якой герой збіраўся сеяць хлеб. З яго дарам ствараць перакануўчыя вобразы і чуласцю да падзей, з яго маштабамі мыслення можна толькі ўявіць, як бы гучала сёння Мележава слова пра Беларусь, пра яе нацыянальна-духоўнае Адраджэнне. І. Мележ жыў думкаю пра беларускі народ, і таму яго творы сталі буйной з'явай сучаснай літаратуры і культуры. Яго творы — гэта спроба захаваць жывую душу вялікага і шматпакутнага беларускага народа ва ўмовах татальнай духоўнай дэградацыі і фізічнага знішчэння чалавека, спроба ўздзейнічаць на стан свету. Гэта спроба не была безнадзейнай — чулая да ўсяго чалавечнага душа чытача адгукаецца на заклік пісьменніка быць мужнымі і гуманнымі, служыць свайму народу.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

# З ПОЛЬСКІХ СХОВАЎ

У канцы мінулага — пачатку гэтага года ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР праходзіла выстаўка «Мастацкія тканіны XVIII—XIX стагоддзяў». Яна была арганізавана Дзяржаўным зборам твораў мастацтва на Вавелі (Кракаў) у рамках супрацоўніцтва з Дзяржаўным мастацкім музеем БССР. Матэрыял да яе прадаставілі зборы Кракава, Варшавы, Венграва, Лодзі, Познані.

Прадметы, што экспанаваліся, былі створаны ў асноўным на Беларусі. Тым больш выстаўка павінна была б выклікаць вялікую цікавасць, але гэтага не здарылася. Не з-за якасці выстаўкі, хоць яна непазбежна няроўная, а з-за якасці жыцця, якое патушыла ў «шырокіх масах» цікавасць да мастацтва. Выстаўка няроўная і таму, што прадстаўляе ўвесь тэкстыль — ад паяскоў сялянскага адзення да галуноў трона Станіслава Аўгуста Панятоўскага, і таму, што такое «фасаднае» XVIII стагоддзе — царственны габелен з «Гісторыі роду Радзівілаў» і бясхітрасны дыван, прататып вясковых «маляванак» пазнейшага часу; і таму, што цэнтры, прадукцыя якіх прадстаўлена (Бяла Падляска, Гродна, Карэлічы, Нясвіж, Слонім, Слуцк), нягледзячы на шэраг першакласных твораў, усё-такі былі еўрапейскай і геаграфічнай, і мастацкай перыферыяй. І як мала захавалася ў бурах, якія бушавалі ў Рэчы Паспалітай і яе асколках з нязначнымі зацішшамі. Але ўсё ж адчуванне ад выстаўкі — выдатныя былі часы. З-пад цьмянага колеру тканіны праяўляюцца нецяперашнія грацыя і вытанчанасць. Прадметы побыту, як нішто іншае, авяваюць дыханнем мінулых часоў. Цудоўны габелен «Агляд літоўскіх войскаў пад Заблудавам» цяпер мае каларыт вячэрніх восеньскіх палёў, што надае яго бравурнасці меланхалічную прыгажосць. Цудоўныя тры габелены з серыі «Антычныя статуі», хоць імітуюць скульптуру і мармур, але гэта імітацыя як прыём, як ігра. Грызайль светла-вохрыстых і шэрых адценняў, гірлянды бляклых колераў пры агульнай манументальнасці кампазіцый і форм — «зморанае» барока. Зачароўвае, як міраж. Перл выстаўкі — 21 слуцкі пояс. Па волі разнастайных праяў злога лёсу Беларусь валодае мізэрнай колькасцю гэтых праслаўленых рэчаў. У 1927 годзе ў Мінску была першая і адзіная выстаўка паясоў, каталог якой сведчыць, што і тады становішча было такое ж сумнае. Так што цяперашні паказ — з'ява выключная па колькасці і дасканаласці прадстаўленых узораў. Залата- і сярэбратканыя, якія з'яўляліся прадметам напышлівай раскошы шляхты, яны здзіўляюць стрыманай высакароднасцю прыгажосці.

Патрэбная дэталь выстаўкі — партрэты (са збору ДММ БССР) тых, па чыёй волі і чыімі намаганнямі квітнела, хоць і нядоўга, прафесійнае ткацтва на беларускай частцы Рэчы Паспалітай — Станіслава Аўгуста Панятоўскага, апошняга караля Польшчы, Ганны Радзівіл з Сангушак, Міхала Казіміра Радзівіла «Рыбанькі», Міхала Казіміра Агінскага.

**В. ВАЙЦЯХОЎСКАЯ.**

# У ТЭАТРА — ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

**Дваццаць гадоў назад пастаноўкай аперэты Ю. Семянякі «Пяе жаваранак» адкрыў свой першы сезон Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР. За гэты час калектыў паказаў гледачам каля шасцідзесяці музычных спектакляў розных жанраў — ад аперэты да фалькоперы і мюзікла. На яго сцэне ўпершыню ўбачылі свет такія нацыянальныя музычныя камедыі, як «Паўлінка» Ю. Семянякі і «Несцерка» Г. Суруса.**

**У жыцці тэатра заўсёды суседнічаюць будні і святы. Вядома, апошніх значна менш. Калі яны ўсё ж бываюць, то становяцца святамі не толькі для трупы, але і для гледачоў. І, зразумела, свята для трупы — гэта ўдалая прэм'ера. За дваццаць гадоў іх было шмат. Рэпертуар тэатра разнастайны. У ім нямала класічных аперэт. Уключаючы іх у свае афішы, трупа ставіць перад сабой задачу беражлівых адносін да класікі ў спалучэнні са свежым поглядам на яе прачытанне. Юбілейны сезон калектыў тэатра музкамедыі таксама адзначае прэм'ерамі. Гэта рэвю-мюзікл «Вакол кахання» і народная музычная камедыя «Калі заспявае певень» маладога беларускага кампазітара Алега Чыркуна, створаная па матывах беларускага музычнага фальклору.**





**НА ЗДЫМКАХ: кампазітар Рыгор СУРУС (справа) з галоўным дырыжорам тэатра Сяргеем БУРАКОМ; заслужаны артыст УССР Арнольд РАНЦАНЦ у ролі сенатара Дзяляквы (злева) і заслужаны артыст БССР Герман КАЗЛОЎ у ролі герцага Урбіна з аперэты І. Штрауса «Ноч у Венецыі».**

**Фота І. ЮДАША.**

*РАЗЬБЯР ІОСІФ САЎКО*

# КАБ ЧУЙНЫМІ ДА КРАСЫ БЫЛІ ЛЮДЗІ

Да вёсачкі Варонічы, што раскінулася на Зэльвеншчыне, з трох бакоў падступаюць лясы. Можа, пастаяннае суседства з лесам жывіць натхненне тутэйшага разьбяра І. Саўко. Аб сустрэчы з майстрам, жыхаром вёскі Варонічы Іосіфам Саўко, я марыў даўно.

...Хату яго пазналі здалёк. Яна вылучаецца сярод астатніх вясковых пабудоў. На дзвярах веранды — кампазіцыя паводле вядомай беларускай песні «Касіў Ясь канюшыну...»

Жыццё не песціла Іосіфа Іванавіча. З шасці год пачаў зарабляць сабе на хлеб. З 1921 па 1925 гады знаходзіўся ў дзіцячым доме ў мястэчку Дзярэчын.

— Першы ўрок разьбярства мне дала загадчыца дзіцячага дома Навіцкая,— успамінае 85-гадовы майстар.— Яна паказала, як вырэзваць коней. Справа вельмі захапіла мяне. Менавіта гэтыя ўрокі і сталі для мяне ўрокамі характва, дабрыні і творчасці. Жыць у дзіцячым доме было неймаверна цяжка. З самай раніцы — школа, пасля заняткаў усе выхаванцы ішлі да майстроў, якія вучылі іх той ці іншай рабочай прафесіі, а позна вечарам рыхтавалі ўрокі. У рэдкія вольныя хвіліны браўся за сталярныя інструменты, за дрэва, рэзаў фігуркі звяроў.

Толькі ў верасні 1939 года пасля вызвалення Заходняй Беларусі змог Іосіф Саўко прыняць удзел у першай абласной выстаўцы народнай творчасці ў Баранавічах.

У гады ваеннага ліхалецця ён — сувязны атрада «Перамога». Быў паранены ў правую руку. Вайна зрабіла яго калекам, але не здрадзіў ён свайму захапленню. Пачаў рэзаць левай рукой, а правай крыху падтрымліваць.



Пасля вайны Іосіф Іванавіч адзінаццаць гадоў працаваў у Зэльвенскай сярэдняй школе. Выкладаў урокі працы, адначасова займаўся з хлопцамі разьбярствам. Менавіта ў гэты час многа работ зрабіў сам. Дарэчы, некаторыя з іх трапілі на выстаўку народнай творчасці Беларусі, што праводзілася ў Акадэміі мастацтваў СССР.

Іосіф Іванавіч заўсёды стараецца ствараць рэальныя вобразы. Вось яны, работы разьбяра: партызанка з вінтоўкай праз плячо доіць карову; жонка Яўгенія Якаўлеўна, ідучы [illegible]ь, нясе калыску-трохно[illegible] з дзіцём і торбу. Гэтыя кампазіцыі абуджаюць у памяці ўспаміны пра далёкія і цяжкія гады жыцця ў былой Заходняй Беларусі. Асабліва дарагая Іосіфу Іванавічу раб[illegible] якую ён назваў «Загубл[illegible] талент».

— Там паказана, як дзед пляце лапці, а хлопчык іграе на скрыпцы. Прататыпы гэтых герояў — рэальныя людзі. І я іх ведаў. Бацькі маленькага батрака памерлі. Хлопчык зрабіў скрыпку з конскага воласа і дошак. Ніводная вечарынка не абыходзілася без маленькага музыкі. Жыць яму з дзедам даводзілася ў маленькай зямлянцы ў садку панскага маёнтка. Сумныя мелодыі яго мне тады вельмі запалі ў душу. І я ўжо ніколі не забываў таго скрыпача.

Сваю задачу народны майстар бачыць у стварэнні вобразаў роднага краю, паказе жыцця вёскі Варонічы. Выдатна ведае стары майстар асаблівасці ўсіх парод дрэў, сакрэты іх апрацоўкі.

Лепшыя вырабы І. Саўко займуць ганаровае месца ў музеі калгаса «Зара».

Больш як палову стагоддзя займаецца Іосіф Саўко з Варонічаў сваёй любімай справай. Да таго ж, як самую дарагую рэліквію, захоўвае гаспадар дома балалайку, на якой іграе ў вольныя хвіліны ўжо больш за 30 гадоў.

**П. ЖАБРАК,**
**супрацоўнік зэльвенскай райгазеты «Праца».**

*СПАДЧЫНА*

# ТАЙНЫ СТАРОГА МЛЫНА

Кожны, хто хоць аднойчы пабываў у Заслаўі, не мог не звярнуць увагі на трохпавярховую драўляную будыніну з дзіўнай шыльдай — «Гаспадар Вялікі млын». Па-першае, таму, што месціцца гэты дом на ўзбочыне самай ажыўленай вуліцы горада — адзінай, якая вядзе ў цэнтр. Па-другое, як нельга лепей упісваецца ў мястэчковы каларыт старой часткі горада.

Дарэчы, паравы млын на гэтым месцы збудавалі яшчэ ў пачатку стагоддзя, а вось шыльда на абноўленым рукамі рэстаўратараў будынку з'явілася параўнальна нядаўна — месяц-другі назад. Пасля таго, як мара супрацоўнікаў дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка «Заслаўе» аб стварэнні ў старажытным горадзе этнаграфічнага комплексу «Млын» паступова пачала станавіцца явай. Чым кіраваліся энтузіясты?

— Справа ў тым, што ў Заслаўі гістарычна склаўся унікальны комплекс будынкаў: млын, хата млынара, а таксама завознікаў — на сучаснай мове, гасцініца для тых, хто прывозіў сюды зерне на памол здалёк,— растлумачыў мне загадчык сектара народных промыслаў запаведніка А. Гурбо, які ўзначальвае сёння рэстаўрацыйныя і аднаўленчыя работы. — Прывесці млын у належны стан дапамаглі нам мясцовыя ўмельцы з кааператыва «Альянс». Праўда, цяпер млын будзе працаваць ужо на электраэнергіі. А на чарзе — хата завознікаў, якая адбудоўваецца нанава згодна з гістарычнымі апісаннямі і даведкамі.

— І яшчэ адна важная асаблівасць: тут будзе не толькі дзеючы мукамольны млын, але і музейная ўстанова,— падкрэсліў Алег Аляксеевіч. — Наколькі нам вядома, у межах нашай рэспублікі, ды і нават па краіне, на сённяшні дзень няма музеяў, прысвечаных млынам. Да таго ж, млыноў, якія да нашай пары ўсё яшчэ працуюць, таксама няшмат. Такім чынам, будучы заслаўскі комплекс з экспазіцыяй мусіць стаць першай спробай у музейным асвятленні гісторыі млынарства.

Планы ў супрацоўнікаў запаведніка самыя разнастайныя. Калі будзе завершана рэстаўрацыя, а дакладней, аднаўленне хаты завознікаў і ў асноўных рысах сфарміруецца этнаграфічны комплекс (а час гэты не за гарамі), да паслуг цікаўных наведвальнікаў будуць кваліфікаваныя экскурсаводы, якія прапануюць самыя падрабязныя звесткі па гісторыі млынарскай справы ў Заслаўі і на ўсёй Беларусі.

Ёсць задума наладзіць тут продаж буклетаў з даўно забытымі кулінарнымі парадамі. А яшчэ — даць магчымасць паспрабаваць наведвальнікам апетытныя булачкі ды хлябцы, выраблены па народных рэцэптах і старадаўняй тэхналогіі. І ўжо зусім пакуль што ружовая мара — у прыбудове да асноўнага будынка млына стварыць невялічкі і ўтульны шынок...

Аднак усё гэта — справа будучыні. А што сёння? Даўно абмалацілі снапы на ўласных падвор'ях вяскоўцы, убраны ўраджай і з калгасных палёў. Ёсць патрэба — калі ласка, завітайце на стары заслаўскі млын. Абноўлены і ад таго памаладзелы, ён літаральна не сёння-заўтра прыветліва загрукоча жорнамі... А пульхны бохан, спечаны са свежай мукі ўмелай гаспадыняй, пагадзіцеся, асабліва смачны.

**І. ПЕТРУСЕВІЧ.**



# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**Адольфа Фаміча САБЫНІЧА**, 1891 альбо 1892 года нараджэння, шукае яго пляменніца **МАЦЕЦКАЯ Ядвіга Пятроўна. Адольф САБЫНІЧ** жыў у г. Чыкага, ЗША. Перапіска з ім падтрымлівалася, ад яго прыходзілі і грашовыя пераводы, апошні — у 1976 годзе. Просьба ўсіх, хто што-небудзь ведае пра **Адольфа Фаміча САБЫНІЧА**, пісаць у рэдакцыю альбо на адрас:

**БССР, 217717, Віцебская вобласць, Докшыцкі раён, п/а Кіякова, в. Старое Сяло, МАЦЕЦКАЙ Ядвізе Пятроўне.**



Адольф Фаміч САБЫНІЧ.


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 221.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12